ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 8(5190)
Субота, 20 студзеня 2001 года

Кошт у розніцу — 47 руб.

З чым ідзём да дзяцей?

## Што ж значыць "на ўсе сто"?

### Як ствараюцца сакрэты творчага поспеху настаўніка

НАСТАЎНІК і творчасць — паняцці непадзельныя. Творчы пошук з'яўляецца краевугольным каменем педагагічнай працы. Як бы ні мяняліся канцэпцыі навучання і выхавання, па якіх бы ўдасканаленых праграмах ні даводзілася працаваць школе, без творчай захопленасці настаўніка абнаўленне школы не будзе — простая да банальнасці ісціна. Што дае нам падставу называць настаўніцкую працу творчай? Яе высакароднейшая мэта? Цяжкі, складаны, рознаварыянтны змест? Так, і першае, і другое. Але не толькі гэта. Педагагічнае рамяство творчае, перш за ўсё, бадай, па стаўленні да яго. У чым-чым, а ў адсутнасці адказнасці, патрабавальнасці да сябе, імкнення пастаянна весці педагагічны пошук не абвінавацяць большасць працаўнікоў школьнай асветніцкай нівы нават самыя заўзятыя крытыкі сучаснага стану нашай агульнаадукацыйнай школы. Неардынарнасць асобы таго, хто штодзень праводзіць у класе ўрокі — вось што, калі гаварыць коратка, і робіць педагагічнае рамяство творчым.

Помніцца, як у адной школе мне расказвалі пра настаўніцу, амаль трыццацігадовы вопыт працы якой у школе заслугоўвае ўвагі. "Адданая сваёй справе, любіць дзяцей, ведае магчымасці кожнага вучня", — так характарызавалі яе дырэктар і завуч. А я ўсё дапытваўся: "А ў чым жа праяўляецца ў гэтай настаўніцы творчы падыход да педагагічнай дзейнасці?", пра які з такім імпэтам талкавалі яны. Агульныя фразы накшталт "яе ўрокі нясуць дзецям не толькі веды, а з'яўляюцца ўрокамі ўзаемадапамогі вучням, адказнасці за вынікі сваёй вучобы" мяне не задаволілі. Хацелася на свае вочы пабачыць, як жа настаўніца працуе над праблемай павышэння цікавасці вучняў да працэсу пазнання праз прадуктыўныя формы і метады навучання, пра што гаварылі мне кіраўнікі школы. Зразумела, што па некалькіх наведаных уроках шырокае ўяўленне пра сістэму работы настаўніка не сфарміруеш, але ж і тыя заняткі, на якіх я назіраў, як настаўніца працуе з класам, далі падставу да пэўных высноў. У маім блакноце з'явіўся такі запіс: "Тлумачэнне новага вучэбнага матэрыялу даступнае да вучняў, мае лагічную завершанасць. Па форме ўрок праходзіў як дыялог з класам, а па сутнасці ішла актыўная мысліцельная дзейнасць дзяцей, якую накіроўвала настаўніца. Вучні, якія адказвалі на ўроках, умеюць разважаць, абагульняць вывучанае, выдзяляць галоўнае, абгрунтоўваць сваё меркаванне па тым ці іншым пытанні".

Я заўважыў і такую адметнасць педагагічнага почырку настаўніцы: яна ўмела падахвочвае любую актыўнасць думкі. Падлеткі вучацца аналізаваць адказы сваіх таварышаў. А каменціраваныя адказы вучняў садзейнічаюць фарміраванню ў іх маналагічнай мовы. А каго ж з настаўнікаў не клапоціць, што нярэдка вучань са здольнасцямі вышэй сярэдніх не ўмее гаварыць дакладна, лагічна і разгорнута? Спадабалася мне і тое, што ў вучняў на ўроках выпрацоўваюцца навыкі самастойнай работы з падручнікам і дадатковай літаратурай (па некаторых раздзелах гісторыі яе ж шмат). А ведаеце як настаўніца ўцягвае вучняў у дыскусіі? Не толькі самых моцных, але і "камчатку"? Ствараючы праблемныя сітуацыі, калі класу прапануецца вырашыць тую ці іншую пазнавальную задачу, абагульняючы вынікі працы на ўроку кожнага выхаванца. Калі я пацікавіўся ў настаўніцы, як яна праводзіць урокі-залікі, то яна параіла мне пабыць на ўроках у яе калегі — выкладчыцы матэматыкі: "А мне тут яшчэ няма чым хваліцца". У кабінеце матэматыкі я ўбачыў вывешаныя на відным месцы пытанні і тэмы залікаў. Пачытаеш — і можна даведацца, якія вучні якія тэмы засвоілі і як здалі залік, над якімі тэмамі яшчэ трэба папрацаваць. Пра ўрокі-залікі настаўніца сказала мне так:

— Важны не столькі працэс здачы заліку, колькі падрыхтоўка да яго. А падрыхтоўцы я заўсёды ўдзяляю вялікую ўвагу, таму вучні і не пакідаюць незразумелыя пытанні "на потым". А што з таго "потым" атрымліваецца — вы ж ведаеце...

З убачанага і пачутага на ўроках гэтых дзвюх спрактыкаваных настаўніц я зрабіў выснову, што пры ўсёй адметнасці падыходаў у кожнай з іх да арганізацыі заняткаў, поспех вучэбна-выхаваўчага працэсу (трывалыя веды вучняў і іх пазнавальная актыўнасць) дасягаецца дакладным планаваннем і прадумваннем не толькі кожнага чарговага ўрока, але і ўсей сістэмы ўрокаў і пазакласнай работы па прадмеце.

ПРАЦУЮЧЫ ў "Настаўніцкай газеце" больш за два дзесяткі гадоў, пабываўшы за гэты час у многіх школах у розных рэгіёнах нашай краіны, я не перастаю захапляцца тым, колькі ўсё ж такі ў нас сапраўды творчых настаўнікаў! Пры ўсім адрозненні метадычных прыхільнасцей, пры ўсёй разнастайнасці тыпаў і мадэляў урокаў, пасля многіх і многіх з іх я стаўлю ў сваіх блакнотах клічнікі — адзін, два, а то і тры, як зарубку на памяць. Прыгадваецца абарона на адным з семінараў панарамных урокаў. Настаўніца рускай мовы і літаратуры абараняе мадэль свайго ўрока "Метады стымулявання разумовай дзейнасці вучняў". Адразу бярэ "быка за рогі": як навучыць вучняў пісаць пісьменна? Прыводзіць прыклады работы над памылкамі, па развіцці мовы, над планам да сачынення і даказвае, наколькі колькасць памылак у вучнёўскіх сшытках залежыць ад ведання вучнямі часцін мовы. Каб папярэдзіць памылкі ўсіх відаў, настаўніца ўдзяляе многа ўвагі рабоце па навучанні дзяцей уменню складаць план сачынення, тлумачыць вучням, што ў пытаннях, якія яны ўключаюць у план, павінен праглядвацца "каркас" будучага сачынення. Яна дэманструе, як пасля праверкі сшыткаў рабіць падрабязны аналіз сачынення аднаго з вучняў. Падключае да аналізу клас і разам з ім знаходзіць моўныя, сэнсавыя, граматычныя і іншыя памылкі, тлумачыць, чаму яны дапушчаны.

Слухаючы, як праходзіць аналіз, я лаўлю сабе на думцы, што менавіта супрацоўніцтва з дзецьмі дапамагае настаўніцы пераадолець цяжкасці данай тэмы, вывучэнне якой вядзецца з выкарыстаннем апорных канспектаў (плюс, зразумела, зрокавае ўспрыманне). А складанне канспектаў праводзіцца ў форме дзелавой гульні, што падахвочвае іх пазнавальную актыўнасць. Маё рэзюме пасля абароны настаўніцкай мадэлі свайго ўрока такое: метадычная вывучка, веданне і ўлік псіхалогіі вучняў — самыя, бадай, адметныя рысы высокага прафесіяналізму настаўніцы. Калегі ўспрынялі яе урок, можна сказаць, на "ўра".

Скажыце, пра што задумваецеся Вы, выбіраючы тую ці іншую форму ўрока? Над тым, перш за ўсё, як правесці яго з апорай на развіццё кожнага дзіцяці, каб і моцныя і слабыя вучні адчулі радасць навучання, — мяркую, што вас клапоціць менавіта гэта. А як дасягнуць такой мэты? Вядома ж, шляхам творчага пошуку і разумнага эксперыментатарства. Бо і тыя ж залікі, і агляды ведаў, і ўрокі-лекцыі, і ўрокі-КВЗ, і завочныя падарожжы, і практыкумы, і многія іншыя формы вучэбнай дзейнасці вучняў толькі тады пацвярджаюць педагагічнае майстэрства настаўніка, калі пасля ўрокаў у дзяцей адухоўленыя твары, а ў вачах — цікаўнасць. Тады і ўсё запланаванае загадзя, і імправізацыю на ўроку можна залічыць у арсенал педагагічнай творчасці, у якім няма месца шаблону і бяздумнасці.

Хто толькі не скардзіцца сёння на недахоп часу! "Не паспяваю", "Няма як разгарнуцца", "Паспрабуй праявіць сябе пры такой загружанасці!.." — нярэдка даводзіцца чуць такія ўздыхі-папрокі, праўда? Але як жа тады паспяваюць рабіць сваю справу, як было модна пісаць раней, на высокай хвалі натхнення многія і многія школьныя руплівцы? Хіба ж усе іх старанні для таго, каб заслужыць пахвалу школы і адукацыйнага начальства? Вядома ж, што не. Калі справа таго заслугоўвае, то трэба рабіць яе на "выдатна" — такую думку выказаў некалі чалавек, які хоць і далёкі ад сферы адукацыі, але дасягнуў прафесійнага поспеху ў сваім жыцці. Па-мойму, менавіта так маглі сказаць настаўнікі, педагагічнае майстэрства якіх самага моцнага гарту. Гарту, атрыманага ў "гарніле" тысяч праведзеных урокаў, у пастаяннай самаадукацыі, у асэнсаванні свайго вопыту, у роздуме над педагагічнай класікай і новымі адукацыйнымі ідэямі і праектамі.

Так, несумненна, што творчасць настаўніка трэба стымуляваць. І не толькі маральна, але і (а цяпер гэта асабліва важна!) рублём. Але ж у тым-та і адрозненне настаўніка ад таго ж, скажам, інжынера, слесара, гандляра ці банкіра, што самы галоўны стымулятар педагагічнай творчасці заўсёды побач з ім — гэта яго вучні. Менавіта яны, дзеці, і "вядуць" настаўніка як да пошуку найбольш аптымальных прыёмаў навучання ва ўсёй сукупнасці тэхналогій, так і да новай педагогікі — педагогікі развіцця асобы. А значыць — да новых ідэй, да новай школы.

...Я на ўроках у першым класе. Няма ні строгай цішыні, ні паказной узорнай дысцыпліны. Усе дзеці актыўна працуюць, цягнуць рукі, выказваючы сваё нецярпенне адказаць. І адказваюць — хутка, як і хутка "схопліваюць" тлумачэнне настаўніцы. Думаю: "Такія ўрокі не пакінуць дзяцей раўнадушнымі, бо развіваюць дапытлівасць розуму". Як жа дасягае гэтага настаўніца? Бачу ў яе руках мноства "дапаможных рэчаў": таблічкі з прыкладамі, каляровыя лісты паперы, малюнкі, альбомы, паштоўкі, канверты — чаго толькі не вырабляюць гэтыя працавітыя рукі! Пасля ўрокаў хвалю дзяцей. Настаўніца ўсміхаецца, а калі мы застаемся ў класе сам-насам, задуменна гаворыць:

— У кожнай справе трэба паставіць канкрэтную мэту і зрабіць усё магчымае, каб дасягнуць яе. Гэта бывае ой як няпроста. У кожнага дзіцяці свой характар, свой узровень сфарміраванасці здольнасці. Першыя ўражанні могуць і не спраўдзіцца. Вось я і імкнуся ўсебакова вывучыць кожнага свайго вучня.

"Вывучыце, абавязкова вывучыце, — думаю я. — За Вашымі ж плячыма дваццаць гадоў працы, Вы маеце сакрэт педагагічнага поспеху".

РОЗНЫЯ погляды ёсць на метадалогію новай педагогікі. Але тое, што новыя педагагічныя ідэі рэальна прымяняюцца ў школьнай практыцы, для мяне несумненна. Пішу вось гэтыя радкі і думаю: паболей бы дзяржаве нашай увагі да настаўніка, найболей прыкметнага клопату пра матэрыяльныя настаўніцкія праблемы, то наколькі б, напэўна, пабольшала ў Беларусі педагогаў-творцаў! Тады б і раскрыліся іх творчыя магчымасці на ўсе 100 працэнтаў...

Алег КУЛІЦКІ.

Свята для сірот

## Паглядзіце на твары гэтых дзетак...

Каля дзесяці гадоў студзень у Крычаве знамянуецца для дзяцей-сірот радасным святам "Цёплы дом". У гэты дзень пад кіраўніцтвам райвыканкама для іх арганізуюцца канцэрты, разнастайныя гульні, рыхтуюцца падарункі. Цяпер у "Цёплы дом", які звычайна праводзіцца ў Доме піянераў, прыйшлі 130 дзяцей са сваімі апекунамі. Акрамя традыцыйных падарункаў, кожны з іх атрымаў ролікавыя канькі. У новым годзе дзеці-сіроты не засталіся без шматлікіх віншаванняў дарослых, у тым ліку і кіраўнікоў раёна.

НА ЗДЫМКАХ: бывае і Папялушка прынцэсай. Танцуе сямігадовая Аня Брындава; дзеці на свяце.

Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.

Пуцявіны Адраджэння

## У добры шлях, этнашкола!

*У прыдарожнай смузе*
*васільковай*
*Рання зорка*
*ўзгарэлася б хоць!*
*Не адыходзь,*
*Мая родная мова!*
*Матчына песня,*
*Не адыходзь!*

Гэтыя пранікнёныя словы Генадзя Бураўкіна можна паставіць эпіграфам свята "Абрад пасвячэння ў вучні падрыхтоўчага класа этнашколы", якое адбылося нядаўна ў сярэдняй школе № 3 Мінска.

Канцэпцыю этнашколы распрацаваў кандыдат мастацтвазнаўства Ілья Іванавіч Сучкоў. Акрамя агульных дысцыплін дзеці ў гэтай школе вывучаюць тэатральны фальклор, мастацтва вуснага слова, фальклорныя спевы, ігру на народных інструментах, выяўленчае і ўжытковае мастацтва. На Беларусі з'явілася ўжо 6 такіх школ. Чаму так мала, спытаеце вы? А таму, што гэта вельмі цяжкая і складаная справа. Колькі спецыялістаў патрэбна для выкладання вышэйназваных прадметаў! А дзе іх браць? Ёсць складанасці з адшуканнем неабходнага памяшкання, абсталяваннем і інструментамі. Ды яшчэ патрэбна ўгаварыць бацькоў аддаць сваіх дзетак у этнашколу, калі навокал столькі школ з рознымі ўхіламі...

Адным з кіраўнікоў, якая не пабаялася гэтых праблем, стала дырэктар сярэдняй школы № 3 Мінска Рэгіна Мітрафанаўна Кізеева.

І вось яно, доўгачаканае свята! Школа па-святочнаму ўпрыгожана, вучні і настаўнікі апрануты ў беларускае нацыянальнае адзенне. На першым паверсе разгарнулася выстава, якая адлюстроўвала тры этапы беларускага адраджэння: ад Францыска Скарыны да нашых дзён. Колькі цікавых рэчаў знайшлі вучні ў бабуліных куфэрках! Тут былі і льняныя ручнікі, і саматканыя палавікі, і дываны, якім больш за сто гадоў. Вялікую цікавасць выклікалі прылады працы нашых бабуль і дзядуль: пралка, прас, вырабы з гліны, саломкі, кераміка. На асобным стэндзе былі лепшыя вучнёўскія работы.

Самымі прыгожымі ў гэты дзень былі вучні падрыхтоўчага класа этнашколы. Да іх у госці прыйшлі таты і мамы, бабулі і дзядулі, настаўнікі з іншых этнашкол, вучні старшых класаў. Каб стаць сапраўднымі вучнямі, дзецям трэба было праявіць свае інтэлектуальныя здольнасці. Яны паказалі прысутным, што ўмеюць і чаму навучыліся на ўроку мастацтва вуснага слова, які праводзіла класны кіраўнік гэтага класа Марына Дзідэнка і ўроку фальклорных спеваў, які праводзіла Марына Антонаўна Пічурэвіч.

Пасля ўрокаў госці і вучні перайшлі ў актавую залу. Са словамі віншавання да дзяцей звярнуўся знакаміты беларускі паэт Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. Ён заклікаў дзяцей берагчы родную мову, расці адданымі грамадзянамі незалежнай Беларусі. Потым дзеці ва ўрачыстай абстаноўцы атрымалі з рук І.І.Сучкова вучнёўскія білеты падрыхтоўчага класа этнашколы.

Свята дасягнула кульмінацыі, калі было выключана святло і са свечкамі дзеці далі ўрачыстую клятву і выканалі гімн этнашколы на словы Янкі Купалы.

Затым вучні старшых класаў паказалі ўрыўкі з п'ес "Несцерка" і "Паўлінка" і ўручылі дзецям падарункі.

Апошнім прыемным штрыхам гэтага свята быў вялікі прывал, на якім дзеці і госці частаваліся стравамі беларускай кухні.

У нашым жыцці мала святаў і таму шчасце, калі іх стала на адно болей! А колькі працы, старання і натхнення патрэбна было, каб на належным узроўні правесці яго, ведаюць толькі добрыя чараўнікі, якія яго арганізавалі: адміністрацыя і настаўнікі школы, бацькі вучняў падрыхтоўчага класа і вучні старшых класаў. Высокую ацэнку мерапрыемству дала вядучы інспектар Міністэрства адукацыі Галіна Віктараўна Наполава.

Вучні запомняць гэты дзень на ўсё жыццё і, будзем спадзявацца, самі стануць актыўнымі ўдзельнікамі Беларускага Адраджэння, а этнашколы будуць першымі парасткамі гэтага Адраджэння.

У добры шлях, этнашкола!

Аляксандр ВАШЧАНКА,
настаўнік.

Праблема нашага часу

## Куды знікае дзяцінства...

***Бадай, мала хто з нас не чытаў кніг пра беспрытульнікаў, не глядзеў фільмы пра дзяцей, якія, не знайшоўшы сабе месца ў сям'і, пакідалі родныя дамы ў пошуках лепшай долі. Да канца XX стагоддзя грамадства так і не здолела вырашыць гэтую праблему. Бадзягі і беспрытульнікі засталіся і сёння.***

Штогод праз прыёмнік-размеркавальнік Упраўлення ўнутраных спраў Мінаблвыканкама праходзяць каля сямісот чалавек. Прывозяць сюды дзяцей ва ўзросце ад трох да васемнаццаці гадоў з усіх рэгіёнаў нашай краіны і нават з суседніх дзяржаў. Тэрмін утрымання — да трыццаці дзён.

За гэты час вызначаюцца асобы прыбыўшых, месца жыхарства, дзеці праходзяць медагляд, а пры неабходнасці лячэнне (вельмі часта сюды трапляюць дзяўчынкі з венерычнымі захворваннямі і дзеці, якія пакутуюць захворваннямі скуры). Нярэдка дзеці наогул нічога не могуць паведаміць пра сябе з-за перанесеных цяжкіх хвароб.

На кожнага прыбыўшага заводзіцца так званая ўлікова-назіральная справа. Выхад на прагулку ці ў сталовую — толькі строем. За непадпарадкаванне патрабаванням выхавацеля ці дзяжурнага па рэжыму магчыма пакаранне. Ёсць у прыёмніку-размеркавальніку дысцыплінарны пакой для зламысных парушальнікаў, якія адмаўляюцца выконваць патрабаванні ўнутранага распарадку. Змешчаныя сюды дзеці пазбаўляюцца прагляду тэлеперадач, магчымасці пагуляць на камп'ютэры. Але, як адзначаюць супрацоўнікі прыёмніка-размеркавальніка для непаўналетніх, выкарыстоўваецца гэты пакой рэдка — адзін-два разы на год.

Акрамя бадзяг, часова ўтрымліваюцца ў дзіцячым прыёмніку і падлеткі, якія ўчынілі розныя злачынствы, у тым ліку асабліва небяспечныя. У апошнія гады ўсё больш стала паступаць сюды малых, чыіх бацькоў пазбавілі бацькоўскіх правоў. Трохгадовыя малюткі ўтрымліваюцца разам з бадзягамі, беспрытульнікамі, малалетнімі злачынцамі. Утрымліваць іх асобна няма магчымасці. Не дазваляюць ні памяшканні, ні строга абмежаваны штат супрацоўнікаў.

У сярэднім у прыёмніку-размеркавальніку штодзень знаходзіцца да семнаццаці чалавек. Але бывае і ў два разы больш.

Дзяцей і падлеткаў, якія збеглі з дому, супрацоўнікі прыёмніка або самі дастаўляюць дадому, або чакаюць прыезду за імі бацькоў. Выхаванцаў, што ўчынілі правапарушэнні, накіроўваюць у спецустановы закрытага тыпу. Гэта яшчэ не калонія, але далёка і не прафілакторый. Самых маленькіх, пазбаўленых бацькоўскай апекі, — у дзіцячыя дамы ці школы-інтэрнаты.

Нярэдка трапляюць у мінскі прыёмнік і дзеці, якія з'яўляюцца грамадзянамі іншых рэспублік СНД і нават краін далёкага замежжа. Былі тут ураджэнцы Індыі, Кітая, Афганістана.

Як паказвае практыка, часцей за ўсё лішнімі аказваюцца дзеці ў праблемных сем'ях. Яны ўцякаюць з дамоў, дзе няма мацярынскага цяпла. Спрабуюць знайсці месца, дзе ім будзе лепей. У выніку ламаюцца дзіцячыя лёсы, а ў вачах усё вастрэй відаць боль і... надзея.

Святлана МАКАРАВА.

Навіны

## Прызы ўручыў Прэзідэнт

***У Мінску, на лядовай пляцоўцы крытага катка ў парку імя М.Горкага, на працягу трох дзён праходзіў міжнародны маладзёжны турнір па хакею "Масква — Мінск" пад патранажам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі.***

У апошні дзень вызначыліся лідэры — каманды Масквы і Мінска. Хакеісты з расійскай сталіцы перамаглі спартсменаў з Омска — 5:0 і Рыгі — 5:0. А беларусы на чале са сваім трэнерам Міхаілам Захаравым разграмілі тых жа амічоў з лікам — 9:0 і ва ўпартай барацьбе латышскіх равеснікаў — 8:5.

Таму заключны матч "Мінск — Масква" аказаўся, па сутнасці, фінальным. На яго прыбыў і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь, кіраўнік Нацыянальнага алімпійскага камітэта А.Р.Лукашэнка, які на гэты раз заняў месца не ў ложы, а сярод гледачоў на перапоўненых трыбунах.

Першы перыяд мінчане прайгралі з лікам 0:3. У другім — зраўнялі лік. У трэцяй 20-мінутцы масквічы ўсё ж даказалі, што яны мацнейшыя. І перамаглі з лікам 6:3.

На ўрачыстым закрыцці турніру яго пераможцаў, спартсменаў і ўсіх гледачоў вітаў Аляксандр Лукашэнка. Ён уручыў капітану каманды Масквы А.Фралову галоўны прыз — памятны Кубак, які быў спецыяльна выраблены да турніру. Не засталіся па-за ўвагай і прызёры — мінчане, рыжане і сібіракі.

Усе яны атрымалі на памяць футболкі з эмблемай турніру і маляўнічыя пластыкавыя вымпелы. Былі вызначаны і лепшыя ігракі. Імі сталі варатар масквічоў С.Барысаў, нападаючы К.Захараў і абаронца Д.Парахонька (абодва з Беларусі). А лепшым бамбардзірам стаў А.Авечкін (Масква).

Казімір ЮРОЙЦЬ.

## Чароўная казка ў гасцёўні Галубка

***Убачыць чароўную казку — самы лепшы падарунак пад Новы год. Менавіта так павіншавалі мінчан удзельнікі дзіцячай тэатральна-музычнай студыі "Альтанка", якая створана пры філіяле Дзяржаўнага музея тэатральнай і музычнай культуры ў вёсцы Залессе Гродзенскай вобласці.***

У канцы 2000 года ў гасцёўню У.Галубка прыйшлі дарослыя і дзеці, каб паглядзець беларускі народны тэатр лялек — батлейку. І вось пачаўся спектакль "Цар Ірад". Трое дарослых ігралі на музычных інструментах, а ў двухпавярховай скрынцы, накшталт хаткі, рухаліся лялькі. Марыя, цар Ірад, чорт і іншыя дзеючыя асобы размаўлялі галасамі хлопчыкаў і дзяўчынак, самаму малодшаму з якіх восем гадкоў. Іх тоненькімі галаскамі напоўнілася ўся прастора аж да самага далёкага куточка гасцёўні. Дарослыя не маглі назіраць за гэтым без слёз радасці. Радасці ад таго, што ў наш час ёсць людзі, якія выхоўваюць сваіх дзяцей і перадаюць ім ў спадчыну традыцыі і звычаі, вядомыя з XVI стагоддзя, бо менавіта з гэтага часу вядома батлейка. Радасна, што разам са сваімі дзецьмі яны займаюцца адраджэннем і захаваннем беларускай культуры.

Паглядзець батлейку прыйшлі студэнты Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта, настаўнікі і вучні школ Мінска, замежныя госці. Хтосьці з іх ўпершыню бачыў такое прадстаўленне, іншыя, напрыклад, вучні сярэдняй школы № 89, самі прымалі ўдзел у батлейцы (на базе аднаго з класаў гэтай школы студэнт Беларускага універсітэта ставіў сваю дыпломную работу).

Спектакль "Цар Ірад" складаўся з дзвюх частак: сур'ёзнай, пра нараджэнне Ісуса Хрыста, і камедыйнай — інтэрмедыі вясёлага зместу з песнямі і жартоўнымі дыялогамі. У канцы прадстаўлення ўдзельнікі батлейкі атрымалі падарункі ад удзячных гледачоў — кнігі, цукеркі, цацкі.

Людміла КАМАРОЎСКАЯ,
загадчыца гасцёўні
У.Галубка.

## Увага, конкурс!

***"Настаўніцкая газета", гарадская арганізацыя грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны і суполка сярэдняй школы № 35 грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы" Магілёва аб'яўляюць конкурс для настаўнікаў "На ўрок, як на свята". Конкурс праводзіцца ў дзвюх намінацыях: "Урок беларускай мовы" і "Урок беларускай літаратуры".***

**Мэты конкурсу:**

* Павышэнне ўзроўню кваліфікацыі настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры;
* Актывізацыя дзейнасці школьных метадычных аб'яднанняў настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры;
* Заклік да абароны, распаўсюджання і ўжывання беларускай мовы ў грамадстве.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна даслаць на адрас аргкамітэта (212022, г.Магілёў, вул. Касманаўтаў, д.1, МДУ, кафедра беларускай літаратуры) свае метадычныя распрацоўкі аднаго ці некалькіх урокаў беларускай мовы (літаратуры) для любога з класаў (1 — 11 кл.) да 15 сакавіка 2001г. Магчыма дасылаць на конкурс аўдыё-, відэа- і фотаматэрыялы.

Пераможцу і прызёраў конкурсу чакаюць каштоўныя прызы.

